# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух »За Свабоду»

Выпуск №4 травень 2015 году



**Бюлетэні за шклом – стар.5**

**Ствараецца Нацыянальны ўніверсітэт – стар.6**

**Новая традыцыя: Дзень Еўропы – стар.8**


# Ігнараванне выбараў

**Да прэзідэнцкіх выбараў-2015 засталося 5 месяцаў, і мы назіраем сітуацыю, падобную да парада кандыдатаў на выбарах мінулых – 19 снежня 2010 году.**

Колькасць ахвотных балатавацца прадстаўнікоў апазіцыі набліжаецца да дзясятка. Сярод іх і Таццяна Караткевіч, чыю кандыдатуру падтрымалі партнёры Руху «За Свабоду» па «Народным рэферэндуме» - кампанія «Гавары праўду» і БСДП (Грамада), сябрам якіх яна з'яўляецца, а таксама Партыя БНФ.

Між тым, красавіцкая заява Рады Руху наконт фармату ўдзелу ў кампаніі прэзідэнцкіх выбараў, якія павінны адбыцца сёлета 15 лістапада, застаецца актуальнай. Рашэнне пра тое, што Рух «За Свабоду» устрымліваецца ад падтрымкі якога-кольвек кандыдата ў прэзідэнты, пераглядацца не будзе. Прычым парад гэтых самых кандыдатаў і тое, як імі вядзецца падрыхтоўка да выбараў, пацвярджаюць слушнасць пазіцыі нашай арганізацыі.

Нагадаем, змест заявы:

«Рада Руху «За Свабоду» са шкадаваннем канстатуе, што нават глыбокі эканамічны крызіс у Беларусі і пагроза для суверэнітэту краіны з боку Расіі не спрычыніліся да кансалідацыі дэмакратычных сілаў Беларусі ў імя незалежнасці, дэмакратыі, рынкавай эканомікі і еўрапейскага выбару.

На вялікі жаль, брак адказнасці і дамоваздольнасці да сённяшнага дня не дазволілі прыняць працэдуру вызначэння адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад дэмакратычных сілаў.

**працяг на стар. 4**

# Партнёрства дзеля мірных пераменаў




**«Народны рэферэндум» з ініцыятывы ператварыўся ў Партнёрства дзеля мірных пераменаў, задачай якога абвешчана правядзенне беспрэцэдэнтнай у Беларусі адзінай палітычнай кампаніі 2015-2016 гадоў. Яна мае ўключыць у сябе кампаніі прэзідэнцкіх выбараў сёлета і парламенцкіх выбараў у наступным годзе.**

Пра гэта журналістам распавялі намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Аляксей Сігаеў, старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч і кіраўнік грамадскай кампаніі «Гавары праўду» Андрэй Дзмітрыеў.

**працяг на стар. 2**

# Партнёрства дзеля мірных пераменаў (працяг)

працяг ад стар. 1

Як падкрэсліў Юрась Губарэвіч, рашэнне грунтуецца на двухгадовым досведзе супрацы чатырох арганізацыяў у межах кампаніі «Народны рэферэндум».

«За гэты час агульнымі намаганнямі актывістаў нашых структураў сабрана 120 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі ў падтрымку вынясення на агульнанацыянальны рэферэндум важных для нашага грамадства пытанняў. Праведзена больш за два дзясяткі грамадскіх слуханняў па ўсёй краіне. Падрыхтаваны рэкамендацыі для органаў дзяржаўнага кіравання па мірным рэфармаванні розных сфераў нашага жыцця. Згодна з дадзенымі Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) амаль палова беларусаў гатовыя падтрымаць «Народны рэферэндум»

Супольная праца дапамагла нам знайсці паразуменне і на наступныя два гады нягледзячы на тое, што ў межах «Народнага рэферэндуму» мы па-рознаму падыходзім да ўдзелу ў прэзідэнцкай кампаніі.

Цяпер наспеў час зрабіць яшчэ адзін крок наперад, каб спраўдзіць чаканні людзей. Менавіта таму мы дамовіліся пра аб'яднанне кампаній прэзідэнцкіх і парламентскіх выбараў у адну кампанію, мэта якой – дамагчыся мірных пераменаў у Беларусі, а таксама пра каардынацыю палітычнага і грамадскага складнікаў кампаніі. Створаны агульны штаб з прадстаўнікоў усіх чатырох структураў для правядзення гэтай кампаніі», - адзначыў Юрась Губарэвіч.

Андрэй Дзмітрыеў заўважыў, што галоўнае, чаго хоча дамагчыся Партнёрства «Народны рэферэндум» сваёй доўгатэрміновай кампаніяй, гэта атрыманне максімальнай грамадскай падтрымкі ідэі мірных пераменаў праз правядзенне рэферэндуму па вызначаных самімі грамадзянамі пытаннях. Але таксама важнай задачай з'яўляецца «змена іміджу дэмакратычных сілаў, іх выхад з дэпрэсіі і смутку ў пазітыў і празрыстасць». Першым крокам, паводле яго словаў, для гэтага сталася вылучэнне супольнага прэтэндэнта на кандыдата ў прэзідэнты Беларусі – Таццяны Караткевіч, актывістку «Гавары праўду» і БСДП (Грамада). Падтрыманая яна, апрача гэтых дзвюх сілаў, таксама Партыяй БНФ. Рух «За Свабоду» вырашыў не падтрымліваць на выбарах-2015 нікога са шматлікіх прэтэндэнтаў на статус кандыдатаў у прэзідэнты, паколькі перспектыву бачыў толькі ў абранні адзінага кандыдата ад апазіцыі.

### Штаб Партнёрства

Па словах Аляксея Янукевіча, стварэнне адзінага штабу Партнёрства – гэта важны прыклад дэманстрацыі адзінства адказных сілаў у апазіцыі дзеля адстойвання нацыянальных інтарэсаў. «Мы не толькі здолелі вылучыць агульнага кандыдата ў прэзідэнты. Ужо зараз мы пачынаем фармаванне агульнага спісу кандыдатаў у дэпутаты пад парламенцкую кампанію 2016 году. Падчас прэзідэнцкай кампаніі 2015 году наш кандыдат у прэзідэнты і нашыя кандыдаты ў дэпутаты будуць працаваць разам. Апошнія будуць кіраваць правядзеннем кампаніі-2015 у тых рэгіёнах, дзе яны будуць балатавацца ў 2016 годзе. Спіс кандыдатаў у дэпутаты ад Партнёрства «Народны рэферэндум» пакуль адкрыты, і ў яго можа патрапіць кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які падзяляе ідэю мірных пераменаў, мае адпаведны досвед і біяграфію, гатовы прыкладаць свае высілкі дзеля дасягнення нашай агульнай мэты», - распавёў пра планы старшыня Партыі БНФ.

Аляксей Сігаеў засяродзіў ўвагу прысутных на важнасці ўзаемадзеяння Партнёрства «Народны рэферэндум» з тымі дэмакратычнымі сіламі, якія да яго пакуль не далучыліся. Намеснік лідара сацыял-дэмакратаў адзначыў: «Сёння арганізацыі «Народнага рэферэндуму» адзіныя, хто захаваў адзінства ў дэмакратычных сілах, здолеў дамовіцца. Гэта вымагае ад нас дзеянняў на захаванне дыялогу і ў ме-

жах усіх дэмакратычных сілаў. Мы лічым важным захаваць так званую «сямёрку» як пляцоўку для ўзгаднення пазіцыяў асноўных дэмакратычных сілаў Беларусі па важнейшых пытаннях».

Абавязкі ў штабе Партнёрства «Народны рэферэндум» размяркоўваюцца наступным чынам:

Аляксей Янукевіч ад Партыі БНФ – адказны за фармаванне адзінага спісу на парламенцкія выбары 2016 году.

Андрэй Дзмітрыеў ад «Гавары праўду» – адказны за правядзенне палітычнай кампаніі 2015 году.

Ірына Вештард з БСДП (Грамада) – адказная за каардынацыю з іншымі дэмакратычнымі сіламі і ўзаемадзеянне ў межах «сямёркі».

Юрась Губарэвіч ад Руху «За Свабоду» – адказны за правядзенне грамадскай кампаніі «Народны рэферэндум».

### Ужо 120 тысяч

На заканчэнне Юрась Губарэвіч распавёў прысутным журналістам, што, апрача палітычнай актыўнасці ў часе кампаніі, працягнецца і грамадская праца ў межах «Народнага рэферэндуму».

Плануецца працягнуць грамадскія слуханні па пытаннях, якія прапануюцца для вынясення на рэферэндум. Па выніках слуханняў будуць і надалей рыхтавацца рэкамендацыі экспертаў для ўрадавых структураў. Але цяпер таксама ставіцца задача распрацоўкі ўласных законапраектаў, якія будуць рэалізаваныя пры дапамозе кампаніі «Народная праграма» на падставе гэтых рэкамендацыяў, і наступнага іх лабіявання з шырокім прыцягненнем грамадскасці. Працягнецца таксама распаўсюд інфармацыі - і праз друкаваныя носьбіты, і праз інтэрнэт - пра неабходнасць мірных пераменаў у Беларусі. У бліжэйшых планах Партнёрства «Народны рэферэндум» – вяртанне да пытання рэфармавання беларускай медыцыны і актуалізацыя праблемы яе якасці і даступнасці.

На сёння ў падтрымку шасці пытанняў «Народнага рэферэндуму» сабрана ўжо 120 тысяч подпісаў грамадзян. 50 тысяч з іх былі перададзеныя дэпутатам – гэта падстава для ініцыявання імі плебісцыту. Сотні электронных зваротаў з заклікам прызначыць рэферэндум накіраваныя ў Адміністрацыю прэзідэнта.

На жаль, улады працягваюць ігнараваць іхнюю волю – і парламент, і кіраўнік краіны.

Напрыклад, ініцыятараамі «Народнага рэферэндуму» быў прыняты зварот з нагоды сёлетняга штогадовага паслання кіраўніка краіны народу і парламенту:

«Прадстаўляючы сацыяльна-эканамічныя і палітычныя інтарэсы значнай колькасці беларусаў, якія ў тым ліку ёсць заяўленымі адрасатамі прамовы кіраўніка краіны», яны заклікалі Аляксандра Лукашэнку агучыць сваю пазіцыю датычна гэтай ініцыятывы мірных пераменаў, а таксама адносна пытанняў з парадку дня прапанаванага рэферэндуму.

«Кіраўнік краіны і дэпутаты мусяць прыслухацца да волі народа, у адваротным выпадку - вытлумачыць, чаму яны ігнаруюць меркаванні дзясяткаў тысяч беларусаў альбо лічаць іх няслушнымі.

Штогадовае пасланне – гэта не толькі ўстаноўкі зверху, а перадусім справаздача перад народам, адказы на пытанні і памкненні грамадзян. У сваю чаргу трансляваць іх абавязаныя і дэпутаты, калі яны сапраўды хочуць звацца і быць народнымі абраннікамі», - гаварылася ў звароце.

Аднак смелых сярод ані членаў Савета Рэспублікі, ані дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў не знайшлося. Пазіцыя Лукашэнкі таксама засталася ігнаравальнай. Пакуль у нас не прэзідэнт і дэпутаты - для народа, а, на жаль, народ - для тых, хто завецца прэзідэнтам і дэпутатамі!

### Шэсць пытанняў «Народнага рэферэндуму»:

1. Ці згодныя вы, што ў дзяржаўных установах адукацыі і аховы здароўя ўсе паслугі грамадзянам Беларусі павінны аказвацца бясплатна?
2. Ці згодныя вы, што кіраўнікі выканкамаў гарадоў, раёнаў, абласцей павінны абірацца прамым галасаваннем грамадзян?
3. Ці падтрымліваеце вы курс на эканамічную інтэграцыю, асацыяцыю і стварэнне бязвізавай прасторы з Еўрапейскім Саюзам?
4. Ці згодныя вы, што дзеля забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных вайсковых аб'ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не мусяць несці службу за мяжой?
5. Ці згодныя вы, што адна і тая ж асоба не можа займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны?
6. Ці згодныя вы, што грошы, атрыманыя ад запланаванай урадам прыватызацыі, у першую чаргу павінны пайсці на кампенсацыю ўкладаў, згубленых пад час дэвальвацыі-2011, і стварэнне працоўных месцаў?

# Ігнараванне выбараў (працяг)

працяг ад стар. 1

Лічым, што паход на выбары асобнымі калонамі дэзарыентуе прыхільнікаў пераменаў і паглыбіць апатыю ў грамадстве. Імітацыя ўдзелу ў выбарчым палітычным працэсе з загадзя прадказальным фіналам можа адштурхнуць людзей ад дэмакратычных сілаў.

Ад моманту стварэння Рух «За Свабоду» ставіў за мэту пашырэнне патрыятычных і праеўрапейскіх настрояў, фармаванне крытычнай масы грамадзянаў, якія ў стане рэальна адстаяць незалежнасць і дэмакратычны выбар Беларусі. Мы і надалей будзем дзейнічаць дзеля яе дасягнення, не абмяжоўваючыся рамкамі выбарчай кампаніі.

Рух «За Свабоду» заяўляе, што ўстрымліваецца ад вылучэння свайго кандыдата і падтрымкі іншых кандыдатаў падчас прэзідэнцкай кампаніі 2015 году. Арганізацыя сканцэнтруецца на распрацоўцы прапановаў эканамічных рэформаў у рамках «Народнай праграмы», ініцыятыве дзеля мірных пераменаў «Народны рэферэндум», а таксама на кампаніях па назіранні за ходой выбараў і за вызваленне палітычных вязняў».

Лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч так пракаментаваў сітуацыю:

«Калі мы пачыналі ўдзельнічаць у працэсах дэмакратычнай кааліцыі, так званай «сямёркі», то хацелі аднаго, каб апазіцыя кансалідавалася і быў абраны адзіны кандыдат. Чаму ён нам так патрэбны? Дакладней, не нам патрэбны, а Беларусі. Няма ў краіне рэальнай палітычнай канкурэнцыі, няма рэальнага падліку галасоў.

Калі мы кажам, што людзі павінны ведаць, што ёсць альтэрнатыва, то гэта апазіцыйная дэмакратычная альтэрнатыва не ў растапырку павінна ісці рознымі калонамі, а павінна мець адзіны пазнавальны твар. І ўсе ведалі б, што вось на гэтага чалавека паставілі дэмакраты. Акрамя таго, шчыра скажам, што разгром апазіцыі, які асабліва моцны быў пасля прэзідэнцкіх кампаніі і наймацнейшы – у 2010 годзе, прывёў да таго, што ў яе зараз ёсць сілы толькі на адну сумесную прыстойную кампанію".




Мілінкевіч зазначае, што пазіцыя Руху – «гэта не байкот, а ігнараванне. Ігнараванне, таму што мы не бачым перспектыў у паходзе многімі кандыдатамі».

Непадтрыманне Таццяны Караткевіч, як і іншых кандыдатаў у прэзідэнты, абсалютна не азначае і развалу «Народнага рэферэндуму».

Рэч у тым, што «Народны рэферэндум» не ствараўся для таго, каб вылучыць кандыдата на прэзідэнцкія выбары, кажа першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч:

«Мы заяўлялі пра гэта першапачаткова. Мэта «Народнага рэферэндуму» іншая. Гэта кампанія, якая заклікана аб'яднаць большасць людзей у Беларусі вакол ідэі мірных пераменаў, у прыватнасці, правядзення рэферэндуму па шасці пытаннях, якія ўпісаны намі ў парадак дня.

Мы не прымяркоўваліся гэтую кампанію да якіх-небудзь выбараў – мясцовых, прэзідэнцкіх альбо парламенцкіх. Гэтыя выбары ўважаюцца як механізм па прасоўванні парадку дня «Народнага рэферэндуму» да як мага большай колькасці грамадзян, выкарыстоўваючы магчымасці выбарчай кампаніі.

Асноўная частка працы робіцца ў міжвыбарчы перыяд, у прыватнасці, гэта збор подпісаў, правядзенне грамадскіх слуханняў, сустрэчы з людзьмі. Мы робім гэта кожны дзень, і Рух «За Свабоду» працягвае гэта рабіць».

Чаму калі выбараў фактычна няма, Рух «За Свабоду» мае намер сканцэнтравацца на назіранні за імі?

«Пра тое, што выбараў на сёння няма, і яны фальсіфікуюцца, сёння ведае менш за палову выбаршчыкаў. Ад 60 да 70% апытаных пасля выбараў кажуць, што, на іх думку, выбары прайшлі абсалютна без парушэнняў альбо без значных парушэнняў.

Калі мы не ўдзельнічаем у назіранні за выбарамі і не даем грамадству канкрэтныя факты гэтых парушэнняў і фальсіфікацый, казаць пра тое, што ўлада сама сябе абрала незаконна, не даводзіцца. Мы прывыклі дзейнічаць не галаслоўна, а абапіраючыся на канкрэтныя факты, якія мы збіраемся атрымаць падчас кампаніі назірання за выбарамі», - адзначае Губарэвіч.

# Бюлетэні за шклом

**Дэмакратычныя сілы Беларусі падрыхтавалі папраўкі ў выбарчае заканадаўства.**

Дэмакратычныя сілы Беларусі ў межах кампаніі назірання «Права выбару» прапануюць вынесці на разгляд парламента законапраект, які змяняе практыку правядзення выбараў і рэферэндумаў у краіне. Ініцыятыва падтрымана аргкамітэтам па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», Партыяй БНФ, кампаніяй «Гавары праўду», БСДП (Г), Рухам «За Свабоду», Беларускай партыяй «Зялёныя».

Законапраект заснаваны на высновах і рэкамендацыях нацыянальных назіральнікаў па выніках выбарчых кампаній 2010-2014 гадоў, рэкамендацыях міжнародных місій па назіранні за выбарамі БДІПЧ АБСЕ, практыцы прымянення змяненняў і дапаўненняў, унесеных у Выбарчы кодэкс Беларусі ў 2013 годзе, і передавой практыцы развіцця выбарчага заканадаўства ў Еўропе.

Мэта дакумента - дэмакратызацыя выбарчага заканадаўства. Асаблівае значэнне прапанаваныя ў ім нормы маюць для забеспячэння захавання прынцыпаў свабодных і справядлівых выбараў, ўсеагульнага і роўнага выбарчага права пры таемным галасаванні. Законапраект будзе спрыяць захаванню роўнасці правоў і абавязкаў кандыдатаў, свабоднаму ажыццяўленню агітацыі, раўнапраўя палітычных сілаў, выключэнню выкарыстання дзяржаўнай улады для незаконных маніпуляцый, прадухілення фальсіфікацыі вынікаў выбараў.

Законапраект прадугледжвае скасаванне палажэнняў, якія з'яўляюцца прадметам крытыкі з боку нацыянальных і міжнародных назіральнікаў, а таксама ўвядзенне дадатковых гарантый свабодных і справядлівых выбараў.

Так, павышаецца рэпрэзентатыўнасць тэрытарыяльных і ўчастковых выбарчых камісій, пашыраюцца магчымасці палітычных партый для ўдзелу ў правядзенні выбараў шляхам накіравання сваіх прадстаўнікоў у склад выбаркамаў, прадугледжваецца ўвядзенне інстытута членаў ЦВК з правам дарадчага голасу на парламенцкіх і мясцовых выбарах

Таксама ўводзяцца дадатковыя гарантыі свабоднага і бесперашкоднага ажыццяўлення назірання за працэсам галасавання і падлікам галасоў, прадугледжваецца пашырэнне магчымасцяў інфармавання грамадзян аб дзейнасці выбаркамаў з дапамогай інтэрнэту.

Прапануецца стварэнне рэспубліканскага рэестра выбаршчыкаў, скарачэнне перыяду датэрміновага галасавання да двух дзён з увядзеннем дадатковых мер, накіраваных на прадухіленне прымусу да датэрміновага галасавання, датэрміновага галасавання без дастатковых падстаў, незаконных маніпуляцый са скрынямі для галасавання ў перыяд датэрміновага галасавання.

Прадугледжваецца магчымасць онлайн-трансляцыі, відэаназірання і відэазапісу з выбарчых участкаў, абавязковы выраб скрынь для галасавання з празрыстага матэрыялу.

Здымаюцца абмежаванні на правядзенне агітацыйных масавых мерапрыемстваў, адмяняецца забарона агітацыі на карысць няўдзелу ў выбарах.

Уводзіцца статус асабістай недатыкальнасці і іншыя гарантыі дзейнасці для ўсіх кандыдатаў у прэзідэнты, прадугледжваецца ўвядзенне інстытута члена ўчастковага, тэрытарыяльнага выбаркама з правам голасу, накіраванага ў якасці прадстаўніка кандыдата ў прэзідэнты пасля яго рэгістрацыі.

Пашыраюцца магчымасці для грамадскага кантролю за выбарамі шляхам ўрэгулявання працэдуры стварэння і фарміравання складу Назіральнай рады па кантролі за выкананнем парадку і правілаў правядзення перадвыбарчай агітацыі, у якім абавязкова будуць удзельнічаць і прадстаўнікі недзяржаўных СМІ, праваабарончых і іншых аб'яднанняў

Акрамя таго, пашыраюцца магчымасці для судовага кантролю за дзейнасцю органаў, якія ажыццяўляюць падрыхтоўку і правядзенне выбараў, у тым ліку абскарджання дзеянняў выбаркамаў і іншых парушэнняў заканадаўства.

Рада Руху «За Свабоду» заклікае сяброў і прыхільнікаў арганізацыі, а таксама ўсіх тых, каму неабыякава, як лічаць нашы галасы на выбарах, далучацца да кампаніі назірання «Права выбару».

***

***Ахвотным звяртацца да намесніка старшыні Руху Юрася Губарэвіча (тэл.: +375296512959, e-mail: hubarevich@gmail.com) і сябра Рады Руху, сукаардынатара кампаніі «Права выбару» Алеся Сілкова (тэл.: +375296520048, e-mail: silkou@gmail.com).***

# Ствараецца Нацыянальны ўніверсітэт

**У траўні адбылася сустрэча дзеячаў культуры і адмыслоўцаў у галіне адукацыі, на якой была створана Кансультатыўная Рада Нацыянальнага Універсітэта. У бліжэйшы час будзе арганізавана шырокае грамадскае абмеркаванне гэтага адукацыйнага праекта.**

Ініцыятар сустрэчы - старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч: «Непасрэднай нагодай стаў зварот 57 дзеячаў культуры і грамадскіх лідараў Беларусі, у якім была агучана прапанова да грамадзянскай супольнасці аб'яднацца вакол ідэі нацыянальнага ўніверсітэта ды прыкласці супольныя намаганні дзеля ягонага стварэння».

У якасці магчымага фармату новай адукацыйнай установы быў прапанаваны нацыянальны даследчыцкі сеткавы ўніверсітэт. «Нацыянальны – значыць, накіраваны на карысць не дзяржавы, а краіны. Прыярытэтамі павінны стаць беларускія даследаванні, першаснасць беларускай мовы (з шырокім спектрам замежных), стварэнне шырокай адукацыйнай супольнасці, а таксама масіву падручнікаў і тэкстаў, распрацоўка прафесійнай тэрміналогіі», - падкрэсліў Мілінкевіч.

Даследчыцкі – арыентацыя на навуковы пошук для Беларусі і пра Беларусь, супольная праца над актуальнымі праблемамі краіны і рэгіёну, выкладанне даследчыцкіх метадалогіяў. Сеткавы – з шырокім спектрам партнёраў і адсутнасцю жорсткай геаграфічнай лакалізацыі ў канкрэтным горадзе ці краіне.

Згаданая «заява 57-мі» была прынята з нагоды абрання новага рэктара Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта.



У заяве адзначаецца:

"Хоць выбары рэктара ЕГУ абвешчаны завершанымі, з іх вынікамі пагадзіцца немагчыма: шматмесячны працэс быў абсалютна не празрысты, суправаджаўся скаргамі кандыдатаў і непрадказальнымі зменамі правілаў гульні. Кіраўніцтва ЕГУ дэманстратыўна праігнаравала думкі акадэмічнай і студэнцкай супольнасцяў, асацыяцыі выпускнікоў і беларускай грамадскасці.

Лёс універсітэта трапіў ў рукі чалавека, які не толькі ніколі не займаўся беларускімі справамі, але нават не знаёмы з сітуацыяй у нашай краіне і ў рэгіёне. Пры яго ўдзеле ажыццяўляліся акадэмічныя рэпрэсіі супраць іншадумцаў, былі скампраметаваныя еўрапейскія ўніверсітэцкія прынцыпы.

Установа, першапачаткова арыентаваная на выхаванне новай генерацыі свядомых грамадзян незалежнай краіны, канчаткова выйшла па-за межы інтарэсаў і ўплыву дэмакратычнай супольнасці Беларусі. З новым кіраўніцтвам яна ператвараецца ва ўніверсітэт каланіяльнага тыпу, камерцыйны праект, у якім беларусы выключаныя з удзелу ў прыняцці вызначальных рашэнняў.

З гэтае нагоды лічым неабходным заявіць, што ў сваім цяперашнім стане ЕГУ не дае падставаў надалей лічыць яго беларускім праектам. Падтрымка такога ўніверсітэта не можа ўспрымацца таксама як падтрымка дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі, паколькі дзейнасць кіраўніцтва ЕГУ дыскрэдытуе гэтыя каштоўнасці.

Заклікаем грамадзянскую супольнасць Беларусі прыступіць да неадкладных практычных захадаў дзеля стварэння эфектыўнага канкурэнтназдольнага Нацыянальнага ўніверсітэта, у якім еўрапейскасць будзе прынцыпам існавання, беларускасць — стратэгічным выбарам, а Беларусь — унікальным рэсурсам даследаванняў.

Прынцыпам дзейнасці новага ўніверсітэта мае стаць не «Больш беларусаў у Еўропу», а «Больш Еўропы ў Беларусь».

Пад заявай падпісаліся Святлана Алексіевіч, Уладзімір Арлоў, Станіслаў Багдановіч, Алесь Бяляцкі, Зміцер Вайцюшкевіч, Віктар Дашук, Святлана Калінкіна, Анатоль Лябедзька, Валер Мазынскі, Уладзімір Някляеў, Барыс Пятровіч, Андрэй Саннікаў, Івонка Сурвіла, Юры Хашчавацкі, Станіслаў Шушкевіч ды іншыя вядомыя і аўтарытэтныя ў Беларусі асобы.

# Як Мінгарвыканкам пачытаў статут Руху

**Рух «За Свабоду» атрымаў адказ ад мінскіх уладаў на ліст з шэрагам прапановаў дзеля паляпшэння жыццядзейнасці сталіцы, якія былі складзены па выніках адмысловага круглага стала «Народнай праграмы».**

У адказе Мінгарвыканкаму ад імя намесніка старшыні Віктара Лапцева датычна прапановаў паведамляецца «аб намеры па магчымасці ўлічыць іх у сваёй дзейнасці».

Нагадаем, заступіўшы на пасаду старшыні Мінгарвыканкаму пры канцы мінулага году, Андрэй Шорац у звароце да жыхароў сталіцы сказаў: «Мы гатовыя разглядзець любыя прапановы, якія зробяць горад больш прыгожым, больш багатым і камфортным».

Удзел у круглым стале «Народная праграма» для Мінска», падчас якога былі выпрацаваны прапановы, частку якіх Рух «За Свабоду» даслаў сталічным уладам, узялі: эканаміст Зміцер Бабіцкі (займаецца пытаннямі транспарту і лагістыкі), лідар ініцыятывы «Еўрапейская перспектыва» Віктар Янчурэвіч (вырашэнне лакальных праблем у горадзе), старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч (захаванне гістарычнай спадчыны), былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Навасяд (ЖКГ і абарона правоў спажыўцоў), стрыт-арт-актывіст Алег Ларычаў (мастацкія акцыі і гарадская прастора).

Сярод іншага, напрыклад, было прапанавана прыцягнуць да адказнасці вінаватых у незаконным будаўніцтве гатэля «Кэмпінскі», вярнуцца да распрацаванага некалькі год таму праекта рэгенерацыі гістарычнага цэнтра горада. Так, гаворка вядзецца пра ўладкаванне пешаходнай зоны на вуліцах Рэвалюцыйная і Камсамольская і стварэнне падземнага паркінгу на 600 машын пад Кастрычніцкай плошчай.

Сярод іншых прапановаў «Народнай праграмы» для Мінска»:

Каб забяспечыць большую прывабнасць грамадскага транспарту, неабходна павялічыць ягоную хуткасць хаця б да 25 км/г праз вылучэнне асобных палос руху

Больш шырока выкарыстоўваць электронныя табло на прыпынках грамадскага транспарту, якія павінны паказваць рэальны, а не паводле графіку часавы інтэрвал руху

> **“ Было прапанавана прыцягнуць да адказнасці вінаватых у незаконным будаўніцтве гатэля «Кэмпінскі»**

Стварыць агульны рэестр плошчаў Мінска, якія не выкарыстоўваюцца і могуць быць аддадзеныя пад разнастайныя формы гарадской актыўнасці

Уважаць за вырашальнае меркаванне жыхароў горада ў справе прыняцця рашэнняў па рэзанансных і правакуючых сацыяльную напружанасць праектах. Дыялогавай пляцоўкай можа стаць Грамадска-кансультатыўная рада пры Мінгарвыканкаме

Прапанову аб стварэнні такой рады мінскія чыноўнікі палічылі «непрымальнай».

Тлумачэнне такое: «Мінскі гарвыканкам, адміністрацыі раёнаў г. Мінска ажыццяўляюць сваю дзейнасць у адпаведнасці з заканадаўствам, перш за ўсё аб мясцовым кіраванні і самакіраванні», таксама «дзейнічае Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў, які з'яўляецца прадстаўнічым дзяржаўным органам, што вырашае пытанні мясцовага значэння зыходзячы з інтарэсаў насельніцтва і агульнадзяржаўных інтарэсаў, і ўдзельнічае ў абмеркаванні пытанняў рэспубліканскага значэння, якія закранаюць інтарэсы сталіцы». Акрамя таго, маўляў, «дзейнічае Мінскі гарадскі каардынацыйны савет палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў, які аб'ядноўвае найбольш шматлікія і актыўныя грамадска-палітычныя структуры сталіцы».

Улады ўпікнулі нашу арганізацыю, што нібыта «статут Руху, у тым ліку мэты, задачы, прадмет і метады дзейнасці, не прадугледжвае правядзенне такіх мерапрыемстваў, як цыкл семінараў «Народная праграма» па выпрацоўцы планаў рэформаў у розных сферах».

Чыноўнікі няўважліва вывучылі статут Руху, у якім адной з мэтай пазначана «садзейнічанне пабудове грамадзянскай супольнасці і прававой дзяржавы», а ў якасці адной з задач – «арганізацыя і правядзенне сустрэч, лекцый, семінараў, трэнінгаў, выставаў, прэзентацый, конкурсаў, фестываляў і канцэртаў, канферэнцый, сімпозіумаў, у тым ліку і міжнародных».

Прапановы ж, дасланыя мінскім уладам, якраз з'яўляюцца «садзейнічаннем пабудове грамадзянскай супольнасці і прававой дзяржавы»

# Дзень Еўропы – новая традыцыя

**Мінск адсвяткаваў 9 траўня не толькі Дзень Перамогі, але і разам з усім светам Дзень Еўропы. Мерапрыемства з лекцыяй, віктарынай і канцэртам зладзіў Рух «За Свабоду».**

«Радасна, што нягледзячы на тое, што 9 траўня ў Мінску ладзілася багата розных мерапрыемстваў, людзі завіталі і да нас. Гэта гаворыць аб тым, што моладзь свядома абірае еўрапейскі шлях святкавання гэтага дня», - заявіў арганізатар святкавання, актывіст Руху «За Свабоду» Пётр Маркелаў.

Па яго ных словах, «Дзень Еўропы варта адзначаць 9 траўня штогод». «Гэта павінна стаць традыцыяй, якая прыйдзе на змену вар'яцкай форме адзначэння свята міру праз дэманстрацыю ваенная тэхнікі», - заключыў актывіст Руху.

На Дзень Еўропы прыйшлі каля 50 чалавек. Яны пагулялі ў «Паўстанцаў», паслухалі лекцыю палітолага, намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Алеся Лагвінца пра Еўрасаюз, адказалі на пытанні праеўрапейскай віктарыны, пераможцы якой атрымалі прызы. На мерапрыемстве можна было атрымаць адмысловую паштоўку і даслаць яе сябру.

На канцэрт да ўдзельнікаў завіталі Яўген Сокалаў (гурт ZnaROCK), Тоня Вярцінская і гурт «Апоўначы» і гурт «Czas Lajna». Уся праграма доўжылася шэсць гадзінаў.

Першапачаткова Дзень Еўро́пы святкаваўся 5 траўня і быў прысвечаны заснаванню Савета Еўропы (5 траўня 1949 году). Гэтая дата была прызначана з 1964 году.

Але на сустрэчы кіраўнікоў краін-удзельніц Еўрапейскага саюзу ў Мілане ў 1985 годзе ў якасці Дня Еўропы было прызначана 9 траўня. Менавіта ў гэты дзень, 9 траўня 1950 году, міністр замежных спраў Францыі Роберт Шуман прадставіў свае прапановы па стварэнні арганізаванай Еўропы. Гэтыя прапановы, вядомыя пад назвай Шуманскай дэкларацыі, шматлікімі даследчыкамі лічацца пачаткам стварэння таго, што цяпер завецца Еўрасаюзам. З 2003 году гэтае свята адзначаюць таксама і ва Украіне (у трэцюю суботу траўня).


Арганізатар Дня Еўропы Пётр Маркелаў


Пераможца еўрапейскай віктарыны


Алесь Лагвінец пад час лекцыі


Выступае Яўген Сокалаў


Гурт Czas Lajna

Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 29.05.2015 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@pyx.by